# ТЭЛЕПРАГРАМА НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ – на 3-й старонцы

*Свабода, роўнасць, братэрства!*

# Беларускі Усход

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

● Заснавана ў 1991 годзе ● № 44 (125) Чацвер, 2 лістапада 2000 г. У розніцу кошт свабодны

## НАВІНЫ, ПАДЗЕІ, ФАКТЫ

### ПЕНСІІ ЗНОЎ ПАВЫШАЮЦЦА

У гэтым месяцы адбудзецца пераразлік пенсій. Рашэнне аб гэтым прыняў Урад Беларусі.

У цэлым працоўныя пенсіі ў лістападзе павінны павялічыцца на 9 працэнтаў. Іх сярэдні памер будзе адпавядаць 33430 рублям. Максімальная пенсія працуючага пенсіянера (пры стажы мужчын 45 і жанчын 40 гадоў і індывідуальным каэфіцыенце 1,3 і вышэй) складзе 36832, а непрацуючых, адпаведна, 50741 рубель. Чакаецца ў лістпадзе і змяненне памераў мінімальных пенсій.

**Сяргей ГРЫБ.**

### "ПАДРАСЛА" І СЯРЭДНЯЯ ЗАРПЛАТА

Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь паведаміла, што сярэдняя налічаная зарплата рабочых і служачых у верасні 2000 года склала 68685 рублёў (у жніўні была 66380 рублёў).

### А ЯК З ДАБРАБЫТАМ НАСЕЛЬНІЦТВА?

Хітрушчы ў нас Урад! З аднаго боку — клапоціцца пра нас, пенсіі дабаўляе амаль што кожны месяц, заробкі рэгулярна растуць з месяца ў месяц. А як пойдзеш у магазін ці на базар — усё меней і меней прыносіш пакупак за месячны даход. Бо Урад уздымае цэны не на 9 працэнтаў, а на 20, 30, 50 працэнтаў (а то і ЎДВАЯ!) на тавары ці паслугі. Ды іншы раз па два, тры разы за месяц! Вось тут і жыві...

Рэальна дабрабыт народа зніжаецца з тыдня на тыдзень. Да чаго ж цярплівы беларускі народ! Асабліва вясковы. Старыя радуюцца, што хоць пенсію своечасова атрымліваюць, а працаўнікі і заробкі-то своечасова не атрымліваюць, пакуль тая палучка, яе ўжо напалову інфляцыя з'ядае, але таксама моўчкі ўсё церпяць, разве што на кухні Ураду кукіш з кішэні пакажуць. І працягваюць зноў гарбаціцца на карысць "роднага калгаса" ці саўгаса. Вось так і жывём.

**Янка ЧЫСТЫ.**

### ЗА ПАЛІТЫКУ — ВОН З ВНУ

За актыўны ўдзел у кампаніі "Байкот-2000" з Магілёўскага Дзяржаўнага ўніверсітэта была адлічана актывістка Мясцовага Маладога Фронту Ганна Зюзіна. Дзяўчына вучылася на 4 курсе філалагічнага факультэта. 10 кастрычніка яна была выклікана да дэкана факультэта, які паведаміў ёй аб выключэнні. Падставай для гэтага сталі пропускі заняткаў, якіх у Ганны было не больш, чым у іншых студэнтаў. Усё на сваё месца паставілі словы дэкана пра тое, што трэба займацца альбо палітыкай, альбо вучобай. На момант выключэння ў Ганны не было ні запазычанасцяў ні па аднаму прадмету, ні вымоваў. Ганна Зюзіна збіраецца падаваць скаргу ў суд.

**"Навіны" N II.**

### БАРАН ЗАБІЎ СВАЮ ГАСПАДЫНЮ

У вёсцы Сямёнава Верхнядзвінскага раёна баран забіў сваю гаспадыню.

Жанчына заганяла, як звычайна, сваю жывёлу ў хлеў, але баран вырваўся, збіў з ног старую і ўдарыў рагамі ў галаву. Ад атрыманай траўмы пенсіянерка так і не ачуняла, памерла.

**Вольга СІДАРОВІЧ.**

### ХЛОПЧЫКУ ДАПАМАГАЎ УВЕСЬ ГОРАД...

Жорсткія часы не зрабілі жорсткімі нашых людзей, прынамсі, значную частку іх. Летась 9 мая трагічнае здарэнне адбылося з аршанскім хлопчыкам Алёшам Талаем.

Калі ён знаходзіўся на дачным участку сваіх бацькоў, то натрапіў на снарад мінулай вайны. Адбыўся выбух. Хлопчыка моцна знявечыла. Тады літаральна ўвесь горад ускалыхнуўся. Сям'ю не пакінулі ў бядзе. У лёсе аршанскага хлопчыка прынялі самы актыўны ўдзел прадпрыемствы, грамадскія арганізацыі горада, мясцовыя школы. Выратаваць Алёшу дапамаглі нямецкія медыкі.

А нядаўна сям'я Алёшы Талай атрымала новую кватэру на першым паверсе з абсталяваным для інваліднай каляскі пад'ездам.

**Уладзімір МАКСІМАЎ.**

### У ЗАБОЙСТВЕ ПАДАЗРАЕЦЦА ВАСЬМІКЛАСНІК

У Мінску ў сваёй кватэры са шматлікімі нажавымі раненнямі было знойдзена цела жанчыны, якая працавала на вытворчым аб'яднанні "Гарызонт". Супрацоўнікі міліцыі вылучылі як адну з версій забойства: злачынства было ўчынена з карыслівай мэтай.

А ў хуткім часе супрацоўнікі крымінальнага вышуку ўстанавілі, што забойства ўчыніў 16-гадовы хлопец, раней судзімы, які з'яўляецца вучнем 8 класа вучэбна-вытворчага цэнтра Маскоўскага раёна. Ён затрыманы.

**Аляксандр ВАСІЛЬЕЎ.**

*Восень.*

**Фота Фелікса ШКІРМАНКОВА.**

### ЗВЕРСКАЯ ЗЛАЧЫНСТВА

Вечарам 27 кастрычніка мясцовае радыё ў Хоцімску у экстраным выпуску паведаміла, што ў адным з дамоў райцэнтра днямі знойдзены трупы двух пенсіянераў — мужа і жонкі. Як папярэдне мяркуецца — смерць прымусовая. Па раёну ходзяць розныя чуткі пра абставіны смерці нябожчыкаў.

Наш карэспандэнт звярнуўся па тэлефоне да следчага раённай пракуратуры з пытаннем, якая версія прынята следствам:

— Пакуль ніякая, — адказаў той, — і не трэба пакуль з гэтай нагоды даваць аніякай інфармацыі.

Таму гэтым паведамленнем рэдакцыя "Беларускага Усходу" і абмяжоўваецца.

**Наш кар.**

### У СКАРАЧЭННІ НАРАДЖАЛЬНАСЦІ ВІНАВАТЫ... ТЭЛЕВІЗАР

Адной з галоўных прычын рэзкага скарачэння нараджальнасці ў развітых краінах за апошнія 50 гадоў чэшскія вучоныя называюць павальнае захапленне тэлебачаннем. Калі вы правялі дзве гадзіны ля тэлевізара перад сном, то вам амаль напэўна гарантавана ноч без сексу, сцвярджаюць яны.

Выпраменьванне "блакітнага экрана" ўздзельнічае на патэнцыю — да такой нечаканай высновы прыйшлі вучоныя навуковадаследчага інстытута здароўя чалавека Акадэміі навук Чэхіі. Менавіта таму ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі, згодна з прагнозамі, нараджальнасць у краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, ЗША і Японіі будзе па-ранейшаму скарачацца.

### КОЛЬКІ КАШТУЕ ПРЭЗІДЭНТ?

На выбары прэзідэнта Беларусі ў 2001 годзе плануецца выдаткаваць з бюджэту дзяржавы 12 мільярдаў рублёў. Гэта па сённяшніх цэнах на базары прыкладна мільён парасятак. А колькі сродкаў лясне на гэтую кампанію паміма бюджэтных грошай? Вельмі дорага абыходзяцца выбары народу. Лепш бы жыць без прэзідэнта і аддаць, як раней, усю ўладу Саветам.

**Ігар КАЛЮЖНЫ.**

## БЕЛАРУСКІ УСХОД

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі:**
**213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в. Маркаўка**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца. Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

**Тэлефон для даведак: 22-9-89 у Хоцімску.**

### *Еще раз*

напомним читателям, что купоны на объявления нужно заполнять разборчиво, четко: в каждую клеточку нужно вписывать по одному лишь знаку — букву, цифру или знак препинания.

В противном случае ваше объявление не будет напечатано. У сотрудников газеты нет времени на разгадывание ваших словесных ребусов и закорючек в текстах объявлений и поздравлений.

Уважайте труд газетчиков!

### *Віншаванне!*

Поздравляем любимую дочь и внучку **КОРШУНОВУ Катеньку,** которой 6 ноября исполнится годик, с Днем Рождения. Расти здоровой и будь умницей!

**С любовью мама, папа, бабушки и дедушки.**

г. Климовичи.

● *Каментарый на злобу дня*

# ХТО ЗА ЮГАСЛАВІЯЙ?

**Падзеі апошніх гадоў пераканаўча сведчаць аб тым, што на постсавецкай прасторы адбываецца далейшае абвастрэнне геапалітычнага проціборства. Пры гэтым у найбольш слабым становішчы сёння аказваюцца прадстаўнікі праваслаўна-славянскай цывілізацыі ў Расійскім гісторыка-культурным рэгіёне (РГКР), які ўключае ў сябе Беларусь, Расію, Украіну. У адпаведнасці з міжнароднымі дэмаграфічнымі прагнозамі, у XXI стагоддзі колькасць насельніцтва ў РГКР скароціцца з 208 мільёнаў чалавек (1988 г.) да 142 мільёнаў чалавек (2050 г.). Пры гэтым у Расіі будуць пражываць каля 100 мільёнаў чалавек.**

Па задумках заходніх стратэгаў, падрыў цэласнасці РГКР мае на мэце дэмантаж тэытарыяльных асноў не толькі кожнага з яго састаўных кампанентаў пасобку — Беларусі, Расіі і Украіны — але і дзяржаў-саюзніц, перш за ўсё Югаславіі.

Пасля падзелу ў пачатку 90-х гадоў Югаславіі на пяць суверэнных дзяржаў (Боснія і Герцагавіна (БіГ), Македонія, Саюзная рэспубліка Югаславія, Харватыя, Славенія) Захад да канца стагоддзя практычна ажыццявіў свае планы па вызваленню Косава і Чарнагорыі з-пад уплыву афіцыйнага Бялграда.

Сёння на парадак дня паўстае пытанне аб тэрытарыяльнай цэласнасці Сербіі. Ваяводзіна зможа стаць яшчэ адным кандыдатам, разам з Косавам, на аддзяленне ад Сербіі.

Сутнасць планаў амерыканскай балканскай геастратэгіі ў тым, каб стварыць новы фарпост амерыканскай ваеннай прысутнасці ў Еўропе, паглыбіць між'еўрапейскія супярэчнасці вакол балканскага крызісу, стварыць кіруемы ачаг перманентнай напружанасці у адносінах паміж хрысціянамі і мусульманамі, нейтралізаваць намаганні Германіі і Францыі па кансалідацыі Еўропы на аснове еўрапейскіх хрысціянскіх каштоўнасцяў, адрэзаць Заходнюю Еўропу ад паставак энергарэсурсаў з Блізкага і Сярэдняга Ўсходу, Закаўказзя і Расіі.

У гэтым кантэксце беспрэцэндэнтным аказалася ўмяшанне ЗША ва ўнутраныя справы Югаславіі ў перыяд нядаўніх прэзідэнцкіх выбараў у краіне. Народ ледзь не аказаўся ўцягнутым у вір грамадзянскай вайны. Падзеі ў Югаславіі яшчэ раз пераканаўча прадэманстравалі, што сцэнарый атлантычнай геастратэгіі на Балканах сваім вастрыём накіраваны не толькі супраць Югаславіі, некаторых краін Заходняй Еўропы, але і супраць удзельнікаў Саюзнай дзяржавы.

Па прагнозах заходніх аналітыкаў, эскалацыя дэзінтэграцыйных працэсаў у Расійскім гісторыка-культурным рэгіёне непазбежна прывядзе да адасаблення "рускіх зямель" у межах "гістарычнай Расіі". Пры гэтым на Захадзе прызнаюць, што афіцыйны Мінск ужо сёння выступае ў якасці прыцягальнага суб'екта для "рускіх тэрыторый". Зыходзячы з гэтага імі прагназіруецца, што ў агляднай будучыні Беларусь здольная ўзначаліць працэс адраджэння Расійскага гісторыка-культурнага рэгіёна на антызаходніх геапалітычных каштоўнасцях.

Цяпер прарасійская знешняя палітыка Рэспублікі Беларусь аб'ектыўна падрывае цэласнасць атлантычнай геастратэгіі і сістэмы нацыянальнай бяспекі, перашкаджае дамінаванню ЗША і іх саюзнікаў на ўсёй пастсавецкай прасторы і, як вынік, усталяванню сусветнага панавання.

У гэтай сувязі намаганнямі НАТО ажыццяўляюцца меры па нейтралізацыі прарасійскіх тэндэнцый у сучасным беларускім грамадстве і ажыццяўленню інтэграцыі Беларусі ў трансатлантычнае супольніцтва, адначасова закладаюцца перадумовы ўнутрыбеларускіх канфліктаў на нацыянальнай і рэлігійнай глебе, каб у далейшым справакаваць развіццё падзей у краіне па Югаслаўскаму сцэнарыю.

Такім чынам, Саюз Расіі з Рэспублікай Беларусь у сучасных умовах набывае значэнне першачарговай важнасці для абедзвюх дзяржаў. Ад жыццяздольнасці, трываласці і ўстойлівасці Саюза залежаць тэрытарыяльная цэласнасць і суверэнітэт, пераадоленне дэмаграфічнага і эканамічнага крызісу, перспектывы адраджэння дзяржаўнасці.

**Уладзімір НІКІФАРАЎ, Пётр АБРАМКІН.**



*Пара дадому, карміцелька...*

**Фота Валерыя БЫСАВА.**



*Абутак нашых прадзедаў. Ці дажывем мы да такога?*

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

● *Беларусь и мир*

## М.Мясникович критикует "вселенского шерифа"

Глава администрации президента Беларуси Михаил Мясникович выступил с резкой критикой заявления заместителя прессекретаря Госдепартамента США Филиппа Рикера о непризнании "недемократичных" парламентских выборов в Беларуси. Как отмечается в заявлении Мясниковича, обвинения в фальсификации результатов голосования, брошенные Рикером, должны быть подтверждены "не слухами и сплетнями, а конкретными фактами, которых у "разоблачителей наверняка нет". По мнению главы администрации, "выдержанное в агрессивной стилистике заявление Рикера может служить примером безапеляционного менторства и свидетельствует о неуважении к волеизъявлению белорусских избирателей, стремлении беспардонно давить на другие народы и грубо вмешиваться во внутренние дела суверенного государства". "По сути третьеразрядный чиновник становится в позу вселенского шерифа и угрожает Беларуси суровыми карами за непослушание", — говорится в документе.

● *Громкое дело*

## Супруге экс-премьера Беларуси дали срок — пока испытательный

В суде Фрунзенского района столицы Беларуси закончился судебный процесс по уголовному делу, возбужденному против супруги экс-премьера республики Михаила Чигиря Юлии Чигирь, которая 19 мая укусила за левое ухо майора милиции Амельченко.

Суд признал бывшую "вторую леди" Беларуси виновной в "сопротивлении работнику милиции при исполнении обязянностей по обеспечению общественного порядка с применением насилия" и приговорил Юлию Чигирь к 2 годам лишения свободы с испытательным сроком на 1 год (если за этот период осужденная совершит административное или уголовное нарушение, ее водворят в исправительно-трудовое учреждение сроком на 2 года).

● *Вести с невидимого фронта*

## КГБ объявил войну пиратам

В рамках проводимой уже более года правоохранительными органами Беларуси операции "Контрафакт" только в октябре по приговорам судов Минска и Минской области было уничтожено более 15 тыс. пиратских аудиокассет и компакт-дисков.

Основные усилия стражей порядка сосредоточены сейчас на изобличении крупных оптовиков и поставщиков расходных материалов для пиратских записей. С этой целью большое внимание уделяется перекрытию каналов поступления контрафактной продукции из стран СНГ, которые имеют свое звукозаписывающее производство еще со времен СССР. Так, в прошлом году, белорусские таможенники при участии сотрудников КГБ и МВД изъяли и уничтожили крупнейшую партию пиратских компакт-дисков — около 900 тыс.

# ЦІ ЎСКРЭСНЕМ МЫ, ДУШОЙ УПАЎШЫ, ЗВЯЎШЫ, КАБ ВЫЙСЦІ Ў СВЕТ, ЯК НЕЙКІ ЗДОЛЬНЫ РОД...

## Каго страшыць наша незалежнасць?

Калі гавораць аб незалежнасці якой-небудзь новай дзяржавы, вызваленай вайной і рэвалюцыяй з пад расійскага ярма, то гэта, здаецца, так і трэба, так і павінна быць. Незалежныя Польшча, Літва, Украіна, Латвія і г. д. — усе яны маюць права на гэта, усіх іх можна прызнаць, нават і дапамагаць ці то фізічна, ці маральна. І незалежнасць гэтых дзяржаваў не выклікае ніякіх вялікіх спрэчах. Так ці іначай яны мусяць, яны будуць мець раней ці пазней сваё дзяржаўнае незалежнае існаванне.

А вось загаварыце вы аб беларускай незалежнасці... Тут вам цэлую кучу нагавораць усялякіх перашкод, недарэчнасцей, што аж вушы вянуць, слухаючы. На ўсякую іншую незалежнасць кожны з вамі згодзіцца, абы толькі не на беларускую. Чаму гэта так? Беларускі народ самабытны — гэта прызнаюць ужо нават і нашы праціўнікі з польскага ці расейскага лагеру. Беларуская дзяржаўнасць таксама мае сваю гісторыю — маю тут на ўвазе Вялікае Літоўска-Беларускае княства. Геаграфічнае палажэнне Беларусі таксама не горшае, як у людзей, ну, хоць бы як палажэнне Швейцарыі. Мы крыху адсунуты ад мора, але і Швейцарыя не мае мора. Дык чаму ж так страшна наша незалежнасць?

Нікому не сакрэт, што жыць на свеце беларусам было і ёсць найцяжэй, як усім нашым народам, і ўсё дзякуючы няшчаснай залежнасці ад нашых мацнейшых суседзяў, залежнасць дзяржаўная, ад каго б ні было, бокам залежнаму народу вылязе. І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу. Край наш сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі. Зямлі маем шмат, лесу яшчэ болей; маем вялікія рэкі, азёры, чыгункі, багатыя месты, а ў іх фабрыкі, заводы, ды шмат іншага дабра. К таму ж, на лік мы народ вялікі — каля 12 мільёнаў. Гэта не тое, што якая-небудзь Швейцарыя, Данія ці Грэцыя! Ды чаму ж нам, браты беларусы, не дамагацца сваёй дзяржаўнай незалежнасці?

**1919 год.**
**Янка КУПАЛА.**

Василий ДОЛГОЛЕВ

# САМ СЕБЕ ВИНОДЕЛ

## (Сам сабе вінароб)

**В предыдущем номере нашей газеты была статья о домашнем виноделии, где автор делится многолетним опытом домашнего виноделия из ягод и яблок. Газета вышла в четверг, а в субботу звонит из Хотимска Михаил Алексеевич Сидоренко: "У меня свой виноград. Я надавил два ведра сока и хочу сделать вино. Но оно почему-то не бродит. Так, еле-еле шепчет. Читаю вот вашу газету и не нахожу, как исправить положение. Может из хмеля дрожжи сделать? Я собрал немного хмеля, слышал, что нужно спарить картошки..."**

*Я понял проблему Михаила Алексеевича и посоветовал, что предпринять, чтобы окончательно не испортить виноградный сок, который он получил.*

*Но, по-видимому, виноград сегодня имеется в Белоруссии у довольно многих хозяев, и потому, хотя опыта такого, как в плодово-ягодном виноделии, у меня нет, я решил сегодня поместить в газете хоть какие-то азы виноградного виноделия.*

### Виноградное вино

Приготовление виноградного вина начинается со сбора винограда в тот момент, когда виноград достигает полной зрелости. В это время в нем содержится наибольшее количество сахара. Для получения хорошего белого вина следует оставлять виноград на кусте дольше, только бы он не испортился, пока не начнет гнить. Но от этого начального гниения, вызываемого особым грибком, виноград не портится, а наоборот, приобретает отличные винодельческие качества. Но стоит чуть передержать виноград на плетях, особенно в дождливую погоду, как он начинает покрываться серой гнилью, которая уничтожает урожай винограда и делает его непригодным для использования в виноделии.

Не рекомендуется собирать виноград после дождя или обильной росы: вино будет и слабым, и низким по качеству вообще. И, вполне вероятно, подвергнется порче. Холодный сок трудно и медленно бродит, а вино, из него полученное, впоследствии легко подвергается новым брожениям. Целесообразно удаление с куста гнилых и загнивающих ягод. Собранный виноград должен быть тотчас же после сбора отсортирован и подвержен дальнейшей обработке.

### Приготовление разводки дрожжей

За 5-6 дней до начала общего сбора собирают грозди самого спелого и здорового винограда. После раздробления и удаления гребней мезгу помещают в бутылку или стеклянную банку, закрывают ватной пробкой или обвязывают марлей в 4-6 слоев и ставят на брожение при температуре 20-22°С.

Через 1-2 дня в бутылке явно обнаружится брожение, поднимется шапка мезги. В состоянии бурного брожения (это примерно на 3-5 день) из мезги отжимают сок и используют его в качестве разводки диких дрожжей. Для сухого вина на 10-литровую бутыль вливают 220 г (стакан) этой разводки, для десертного вина — 300 граммов (полтора стакана).

В дальнейшем в качестве разводки дрожжей можно использовать осадок хорошо бродящего вина, можно и плодово-ягодного. Знатоки отмечают, что вино, полученное с использованием разводки диких дрожжей, отличается более высоким качеством по сравнению с вином, полученным на хлебных дрожжах и даже на винных.

### Добавление воды и сахара

Представляется сложным расчет, сколько воды нужно добавлять в виноградный сок. Дело в том, что кислотность виноградного сока даже одного и того же сорта в условиях Белоруссии весьма различна. Она сильно зависит от условий и погодных, и ухода за растениями. Поэтому тут нужно рассчитывать на собственную интуицию: определять кислотность по вкусу и, как говорится, добавлять воду "на глазок". Такое же положение и с добавкой сахара. Тут нужно учиться методом "проб и ошибок".

Вопрос об установке бродильного шпунта при изготовлении вина из винограда спорный. Тут, пожалуй, достаточно ватной пробки.

После окончания брожения отделение вина от осадка производится так же, как и плодово-ягодного вина.

Особая трудность производства виноградных вин заключается в том, что необходимо учесть множество факторов, начиная от сортовых особенностей и условий созревания и переработки винограда, при какой температуре начинать и при какой заканчивать брожение и др. На эти вопросы ответ может дать только ваш опыт, ваши знания и интуиция в каждом конкретном случае, только они помогут найти верное решение.

И, наконец, коль уже делаем вино, то неплохо знать, кому его можно пить. Вот что по этому поводу сказал в свое время замечательный человек, Расул Гамзатов:

*Пить можно всем,*
*Необходимо только*
*Знать, где и с кем,*
*За что, когда и сколько!*



*Чудо-зверь.*

**Фото Валерия БЫСОВА.**

● *Харч і лекі з агарода*

## Замест кавы — буракі

**Яшчэ старажытныя ўсходнія траўнікі выкарыстоўвалі буракі для прафілактыкі і лячэння хвароб сасудаў, страўніка, скурных інфекцый, розных запаленняў.**

Праўда, цукар, які ўтрымліваецца ў каранях-пладах, супрацьпаказаны хворым на дыябет, затое лякарства ад дыябету знаходзіцца ў сцяблінах і лісцях буракоў, варта толькі сабраць іх на досвітку і захоўваць у цяньку, далей ад сонейка. Лісты на світанні бываюць нясмачнымі, а на заходзе сонца становяцца салодкімі, уначы ж гэты цукар перапраўляецца ў караняплод, які з'яўляецца "кладоўкай" буракоў.

Як лічаць усходнія траўнікі, самымі карыснымі і лекавымі часткамі буракоў з'яўляюцца іх лісты, затым ідуць сцяблы, а ужо за імі — караняплод.

Ужыванне ў ежу адваранага лісця буракоў (бацвіння) дапамагае ад сутаргаў і канвульсій. Калі сырое лісце буракоў, асабліва чырвонага колеру, есці з дабаўленнем гарчыцы і слабага раствору воцату, то гэта ежа будзе стымуляваць дзейнасць селязёнкі і ліквідаваць запаленчы працэс пры яе захворванні.

Сок з бурачнага лісця п'юць у якасці болесуцішальнага сродку пры галаўных і зубных болях.

Кампрэс з сокам з бурачнага лісця, пакладзены на вочы, знімае іх пачырваненне. Калі некалькі кропель падагрэтага соку бурачнага лісця закапаць у хворае вуха, то боль супакоіцца.

Пры апёках агнём або кіпенем, а таксама пры сонечных апёках, рэкамендуецца змазаць пашкоджанае месца адваранымі лісцямі буракоў, а кампрэс з размятага лісця з дабаўленнем мёду можна прымяняць для выдалення вугроў, прышчоў і нарываў, з дабаўленнем хны для росту валасоў.

Калі вам надакучыла перхаць, або празмерная сальнасць галавы, раім мыць валасы адварам бурачных лісцяў, які не толькі пазбавіць вас ад гэтай непрыемнасці, але і ад магчымых вошай.

Буракі з'яўляюцца добрым ачышчальнікам страўнікава-кішэчнага тракту. Яны дапамагаюць страваванню і супрацьдзейнічаюць запаленчым працэсам у страўніку.

Народная медыцына рэкамендуе піць сумесь бурачнага соку з маркоўным пры малакроўі.

Пры запорах дапамагаюць вараныя буракі, якія ядуць нашча па 100-150 г.

Буракі як у сырым, так і ў вараным выглядзе садзейнічаюць назапашванню сіл у арганізме, умацаванню нервовай сістэмы, захаванню тэмпературнага балансу у крыві, умацаванню касцявых тканак і арганізма ў цэлым.

Духмяную скурку буракоў можна заварыць і піць замест кавы. Буракі лічацца прафілактычным сродкам супраць вапнавання крывяносных сасудаў і хвароб печані. Аднак яны супрацьпаказаны пры ныркавых захворваннях і хваробах жоўцевага пузыра.

## Малыя дозы радыяцыі і здароўе

Загадчык лабараторыі тэрапіі Навукова-даследчага клінічнага інстытута радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі Анатоль Блізнюк адзначыў на VIII міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Экалогія чалавека ў постчарнобыльскі перыяд", якая праходзіла ў Мінску, што назіранні за ліквідатарамі, якія працавалі ў чарнобыльскай зоне ў першы год пасля аварыі на ЧАЭС, дазволілі зрабіць выснову: іх узровень захворвання ў 2-3 разы вышэйшы, чым у тых, хто не падвергся ўздзеянню радыёнуклідаў. Асноўныя паталогіі — сардэчна-сасудзістыя захворванні, хваробы органаў стрававання, захворванні нервовай сістэмы і органаў пачуццяў. Яшчэ больш ліквідатары схільны да сіндрому старэння, іх біялагічны ўзрост прыкладна на 10 гадоў апярэджвае пашпартны, што праяўляецца ў "амаладжэнні" такіх хвароб, як атэрасклероз, цукровы дыябет, астэахандроз і дэфармуючыя артрыты.

**Марат ГАРАВЫ.**

● *Хатняя аптэка*

## Яйка-лекар

Курыныя яйкі мы ужываем амаль штодзень. Гэта адметны прыродны прадукт, у якім больш за 30 розных лекавых элементаў, неабходных чалавеку. Усё ідзе у справу — жаўток і бялок.

У прадукце, які курыца прыносіць штодня, утрымліваецца 74 працэнты вады і 26 працэнтаў сухога рэчыва. З медыцынскага пункту гледжання уяўляе цікавасць толькі сухое рэчыва. У ім бялкі (12,7 працэнта), тлушчы (11,5 працэнта), вугляводы (0,7 працэнта), мінеральныя рэчывы (1,1 працэнта). Усё гэта без выключэння засвойваецца арганізмам поўнасцю. Амаль ніякіх адходаў.

Бялюткі ці слаба карычневы прадаўгаваты шарык замяняе 40 г мяса ці шклянку малака па спажыўнасці, на 5 працэнтаў задавальняе сутачную патрэбнасць чалавека у пратэіне, тлушчы і мінеральных рэчывах. Па групе вітамінаў яшчэ больш — да 30 працэнтаў!

Найбольш каштоўнымі з'яўляюцца жалеза і вітамін Д. Сутачная норма чалавека па гэтых паказчыках задавальняецца на 10 працэнтаў. А ёсць яшчэ вітамін А, які ўдзельнічае ў росце і фарміраванні шкілета і вельмі неабходны дзецям і падлеткам. Яшчэ ён папярэджвае захворванні вачэй, надае чалавеку устойлівасць да інфекцыйных захворванняў.

Найлепшы вынік адзначаецца пры ўжыванні 2-3 яек на дзень, асабліва ў школьнікаў.

Карысныя яйкі ў любым выглядзе. У яйках курэй, якія гадуюцца на вясковых сялібах, каштоўных рэчываў больш, іх лячэбнае дзеянне ці не на парадак вышэй.

● *Куток гаспадыні*

## Пірог яблычны

*Для цеста: 3 шклянкі мукі, 200 г цукру, 200 г маргарыну, соль па смаку.*

*Для начыння: 700-800 г яблыкаў, 100 г цукру, 1 чайная лыжка молатай карыцы.*

Муку размяшаць з цукрам і маргарынам, працерці праз сіта, каб атрымаліся буйныя крошкі. Палову крошак пакласці ў змазаную алеем форму і паставіць у духоўку на 10-15 хвілін. Яблыкі пачысціць, нарэзаць, перамяшаць з цукрам і карыцай, вылажыць на крошкі ў форме, зверху пасыпаць астатнімі крошкамі, паставіць у духоўку і выпякаць на працягу 1 гадзіны пры тэмпературы 160-170°С.

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670. Тэлефон галоўнага рэдактара — 22-9-89.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 1 лістапада 2000 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Наклад 4296 ас. Аб'ём I друк. аркуш. Заказ № 44.

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ.**